

Дзяўчаты з пушчы → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 13 (3229) Год LXIII | Беласток, 1 красавіка 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**25 сакавіка Беласток святкаваў 100-годдзе абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларусы Беласточчыны даказалі, што найбольш важнай задачай юбілею з'яўляецца смелы погляд на агульную будучыню. Святкаванні перш за ўсё сталі нагодай для ўмацавання адзінства нацыі, нагодай для ўсведамлення трывалых сувязей, якія злучаюць усіх беларусаў.**

У Беластоку ўжо ў канцы дваццатых галоў мінулага стагоддзя беларусы 25 сакавіка ўрачыста святкавалі гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Памяць аб БНР яшчэ ва ўмовах канспірацыі, бо з паловы васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, пачала вяртаць беларуская моладзь, якая вучылася ў польскіх вышэйшых навучальных установах. А пасля дэмакратычных перамен 1989 года ў Польшчы гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі беларуская супольнасць адзначае ўжо легальна — і то не толькі на Беласточчыне. Першыя ўдзельнікі святкаванняў той важнай даты для ўсіх беларусаў таксама і сёння прычыніліся да годнага адзначэння 100-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Святкаванні 25 Сакавіка беларусы Падляшша пачалі святочнай службай. Святая літургія і малебен за беларускі народ прайшлі ў царкве святога Яна Тэолага. Тут беларусы Беласточчыны маліліся перад іконай св. Еўфрасінні Полацкай. Пра гэтую вялікую святую, а таксама пра цяжкасці ў праяўленні рэлігійных ці нацыянальных пачуццяў за савецкіх часоў распавёў выдатны пісьменнік з Полацка **Уладзімір Арлоў**.

Галоўныя святкаванні 100-годдзя БНР у Беластоку прайшлі ў Падляшскай оперы і філармоніі. Канцэртная зала філармоніі была перапоўненая гасцямі з цэлага Падляшша і Польшчы. Сярод іх былі дзеці і моладзь, у тым ліку з беларускіх школ з Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі. У святкаваннях прынялі ўдзел самаўрадаўцы, прадстаўнікі беларускіх арганізацый ды беларускія літаратары. Сярод іх прысутны быў **Віктар Швед**, якому 23 сакавіка споўнілася 93 гады, старшыня аб'яднання «Белавежа» (сёлета аб'яднанне святкуе 60-годдзе існавання) **Ян Чыквін**, ды лаўрэаткі літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага **Міра Лукша** і **Анэта Прымака-Онішк**.

На сцэне першым выступіў дзіцячы танцавальны калектыў «Падляшскі вянок», які дзейнічае пры аб'яднанні АБ-БА ў Беластоку і працуе пад кіраўніцтвам **Аксаны Прус**. У яго выкананні госці маглі пабачыць тры танцы, у тым ліку вядомую ўсім беларусам «Лявоніху».

Арганізатары і ўдзельнікі святкаванняў у Беластоку атрымалі спецыяльны відэазапіс паслання старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі **Івонкі Сурвілы**. Старшыня Рады БНР адклікалася да ідэалаў, якія заснавальнікі БНР ужо ў 1918 годзе хацелі ажыццявіць у незалежнай Беларусі, у тым ліку вольныя выбары ды вольнасць слова і друку.

— Гэта яшчэ ўсё застаецца нядзейсным ідэаламі БНР. Але народ наш жыве, — сказала ў відэазапісе паслання старшыня рады БНР.— Аддаю чэсць **Язэпу Варонку** і ўсім беластачанам за іх вялікі ўклад у змаганне за БНР.







■ Злева: Лявон Тарасэвіч, Алан Туронак і Пётр Сэльвесюк

# Народ жыве!

Віншавальны зварот беларусы Беласточчыны атрымалі і ад беларускай грамады Нью-Йорка. Са сцэны філармоніі павіншаваў беларусаў віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства **Мацей Жыўна**. — Гэта добрая нагода для рэфлексіі. Стагадовая гісторыя паказвае нам, што ніколі нічога не атрымліваем назаўсёды. За свабоду, незалежнасць кожнага дня трэба працаваць і моцна змагацца. Калі будзем разам, тыя вартасці, як вольнасць і незалежнасць, будуць заўсёды важнымі.

У святкаванні 100-годдзя БНР удзельнічаў таксама прэзідэнт горада Беластока **Тадэвуш Трускаляскі**.

— Так польскі, як і беларускі народы неаднойчы трацілі сваю незалежнасць. Таму з большай радасцю і пашанай святкуем гэтыя даты і ўспамінаем тых, якія спрычыніліся да таго, каб вярнуць незалежнасць. Беласток гэта места шматкультурнае. Тут пранікаецца многа культур і гэта ўзбагачае нас усіх. Я хачу, каб беларусы Беластока ведалі, што яны ёсць, і заўсёды будуць у сябе.

Пасол Сейма **Роберт Тышкевіч** звярнуў увагу, што менавіта падзеі 1918 года паўплывалі на стабілізацыю беларускай дзяржавы і што іх пазітыўнымі наступствамі можам цешыцца і сёння.

— Беларусь з'яўляецца асновай міру і стабільнасці ў Еўропе, асабліва ў нашай яе часткі, Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. І ў інтарэсе Польшчы — умацаванне незалежнасці Беларусі, — сказаў Роберт Тышкевіч. — Сёння мы перажываем самы доўгі перыяд міру ў сучаснай Еўропе. Мы перажываем гэты час таму, што Беларусь незалежная. Гэта вартасць пра якую мы павінны клапаціцца разам.

Пра гісторыю Беларускай Народнай Рэспублікі і яе значэнне распавёў прафесар **Алег Латышонак**, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства.

Беларусы Беласточчыны мелі гонар гасціваць у сябе выдатнага пісьменніка і гісторыка **Уладзіміра Арлова**, які зачытаў свой хрэстаматыйны твор пачатку дзевяностых гадоў «Незалежнасць гэта...», перакладзены на 30 моў і падзяліўся сваімі меркаваннямі наконт сёлетняй гадавіны БНР.

— 25 сакавіка 1918 года гэта дзень калі пачаўся доўгі, складаны і пакутлівы шлях да сапраўднай незалежнасці. Шлях, які яшчэ не скончыўся, бо ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі дагэтуль застаюцца нашым нацыянальным арыенцірам. 25 сакавіка гэта дзень амаль усіх творцаў і абаронцаў, якіх закатавалі або расстралялі бальшавікі, — сказаў пісьменнік Уладзімір Арлоў. — 25 сакавіка гэта дзень, калі ў далёкім дзевяностым годзе ў нелегальнай тады яшчэ газеце «Свабода» было ўпершыню надрукаванае маё эсэ «Незалежнасць гэта...».

Зачытанае выдатным пісьменнікам эсэ выклікала ўзрушанасць публікі, якая доўга дзякавала Уладзіміру Арлову гарачымі апладысментамі.

У час святкаванняў традыцыйна ўручаюцца букеты бел-чырвона-белых кветак. У юбілейным годзе месца кветак занялі выявы герба БНР «Пагоні». Арганізацыйны камітэт «Пагоняй» ушанаваў гісторыка **Юры Туронка**, мастака **Лявона Тарасэвіча** і войта Арлянскай гміны **Пятра Сэльвесюка**. Выявы герба ўручыў старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа.

Юры Туронку ўзнагарода была прысуджаная за ўвесь жыццёвы шлях і адданасць беларускай справе. Ён перадаў гісторыю Беларускай Народнай Рэспублікі маладому пакаленню беларусаў. Вучыў нас таксама самастойнага, гістарычнага і палітычнага думання ў любых геапалітычных рэаліях.

«Пагоню» для Юры Туронка ўзяў яго ўнук Алан.

Лявон Тарасэвіч герб БНР атрымаў за адданасць і ахвярнасць у гуртаванні маладога пакалення беларусаў Беласточчыны, пачаўшы з васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. За арганізаванне самаўрадава-палітычнага жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. За беларускую годнасць у любым кутку свету і пераадольванне нашых нацыянальных комплексаў і стэрэатыпаў.

— Атрымаць «Пагоню» разам з Юры Туронкам гэта вялікі гонар, — адзначыў, не хаваючы слёз, Лявон Тарасэвіч.

Пётр Сэльвесюк, войт Арлянскай гміны, а ў яго асобе гміны самаўрад і ўсе жыхары гміны Орля, атрымаў узнагароду за ўвядзенне ў жыццё законаў, якія дазваляюць карыстацца двухмоўнымі польскімі і беларускімі назвамі мясцовасцей, а таксама за ўсе старанні дзеля гарманічнага, культурнага і гаспадарчага развіцця малой Бацькаўшчыны.

— «Пагоня», як гэта напісана, «не разбіць, не спыніць, не стрымаць», — сказаў пасля ўручэння ўзнагароды Пятро Сэльвесюк. — Я думаю, што герб сімвалізуе нас — беларусаў, якія жывуць на Беласточчыне, якія жывуць на цэлым свеце. «Пагоню» мы будзем берагчы. Жыве Беларусь!

Першую частку святкаванняў у канцэртнай зале філармоніі закрыў супольна адспяваны рэлігійны гімн «Магутны Божа».

З вялікай нецярплівасцю ўдзельнікі святкаванняў чакалі выступу зоркі беларускай рок-музыкі, **Лявона Вольскага**. Яго канцэрт прыцягнуў не толькі святкуючых беларусаў, але палякаў ды прадстаўнікоў іншых меншасцей, а таксама гасцей з-за мяжы. Лунаалі бел-чырвона-белыя сцягі, а са сцэны можна было пачуць найбольшых хіты Вольскага, у тым ліку «Тры чарапахі», якія завяршыў доўгачаканы канцэрт зоркі з Мінска.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**



# Соты год
## — на крок бліжэй да Волі

Беларусы адзначылі 100-я ўгодкі з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Адзначылі гэтую дату ў розных гарадах на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і ў тых краінах, дзе пражывае беларуская супольнасць і эміграцыя. Адзначылі годна, варта, урачыста і пад сапраўднай нацыянальнай сімволікай, з музыкай і спевамі. Фактычна зрабілі ўсё, што змаглі ў няпростых палітычных і матэрыяльных варунках.

Упершыню за 22 ці 23 апошнія гады невялічкі крок наперад народу зрабіла і ўлада РБ. Назваць беларускай пакуль, на жаль, яе не можам — гэтае права ў беларускага народа яна пакуль не заслужыла. Дык вось зрабіла крок насустрач, а потым назад — больш за 100 чалавек па ўсёй краіне ўсё ж затрымалі і хапалі самым цынічным чынам, сярод іх вядомых грамадскіх лідараў. Іх незаконна арыштавалі, а ўвечары 25 сакавіка бальшыню гэтак жа незаконна выпусцілі, прадэманстраваўшы выразна: што хочам, тое і зробім. Тым самым гэтым людзям святочны дзень незваротна сапсавалі.

Галоўныя вулічная акцыі ў Мінску, Гродне, Брэсце, некаторых іншых гарадах дазволілі. У некаторых абласных цэнтрах не дазволілі. Далей ужо мясцовыя ўлады дзейнічалі па нейкіх сваіх сакрэтных сцэнарыях — адны не перашкаджалі, іншыя не ведалі, што рабіць і не былі паслядоўнымі. Калі гэтае пытанне было дадзена на вырашэнне мясцовым кіраўнікам, то гарадзенскім начальнікам можна крыху падзякаваць. Прынамсі ў горадзе над Нёманам ніхто не перашкаджаў правядзенню свята і яно ўрэшце ўдалося, хоць і праходзіла па рашэнні гарвыканкама далёка ад цэнтральных пляцоў. У Каложскім парку луналі шматлікія бел-чырвона-белыя сцягі. Арганізатары зрабілі такі падарунак тым, хто трымаў нацыянальную сімволіку — кожны ў канцы свята мог забраць сабе прыгожы сцяг. Некаторыя папрыходзілі са сваімі палотнішчамі. Так, адзін з удзельнікаў святочнага мерапрыемства прынёс вялікі сцяг, які ўзвышаўся над гарвыканкамам яшчэ ў 1995 годзе. Сімволікі і сімвалічных паралелей было ўвогуле шмат. Выступоўцы казалі пра значнасць падзеі стагадовай даўніны, пра пераемнасць традыцый БНР, пра адраджэнне мовы і культуры, прыгаданыя былі асобы, якія закладалі падмуркі нашай дзяржаўнасці ў першай чвэрці дваццатага стагоддзя.

Можна сказаць, што памяць пра БНР калі не адроджана напоўніцу, то адраджаецца. Нейкіх трыццаць гадоў таму, калі святкаваліся 70-я ўгодкі, пра БНР ведалі толькі эмігранты ды адзінкі ў самой Беларусі. Зараз гэтую старонку айчыннай гісторыі адкрылі для сябе ўжо дзясяткі, а можа і сотні тысяч грамадзян Рэспублікі Беларусь. У Мінску ўрачыста адчынены памятны знак братам Луцкевічам, неўзабаве ў сталіцы таксама будзе павешана памятная шыльда на будынку, дзе абвяшчалася Трэцяя Устаўная грамата БНР. У Гродне, другой сталіцы Беларускай Народнай Рэспублікі, таксама актыўна збіраюцца подпісы за адпаведную шыльду, нібыта ёсць і папярэдняе абяцанне мясцовай улады спрыяць яе ўсталяванню.

На дазволеныя мерапрыемствы ў Мінску, Гродне, Брэсце прыйшлі тыя, хто і так нічога не баіцца. Іншая частка грамадства баіцца ўсяго. Ёсць яшчэ сегмент, які „апраменены тэлевізарам" і агрэсіўна настроены супраць усяго беларускага. Але самая вялікая частка нашага грамадства — гэта тыя, хто абыякавы да ўсяго. І як дастукацца да мазгоў, сэрцаў ці хоць бы інстынктаў самазахавання гэтых людзей — найвялікшая праблема дэмакратычнай супольнасці.

Адназначна, што ў час святкаванняў 100-х угодкаў БНР сёлета зроблены значны крок да ўсведамлення сябе паўнавартаснай і годнай нацыяй. Але да сапраўднай Волі, да сапраўднай Незалежнасці належыць зрабіць і прайсці яшчэ нямала. „О, як далёка нам яшчэ да Беларусі!" — як сказаў выдатны айчынны паэт. Гэта па мерках аднаго чалавечага жыцця. А з іншага боку, па мерках касмічнай гісторыі, сто год — гэта толькі імгненне.

Яшчэ раз усіх шчыра віншую з Днём Волі!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Ілюзіі



Перамяшчэнне з месца на месца — гэта лепшая магчымасць для добрасумленнага рахунку карысных і бескарысных прадметаў, тым самым разліковы дыскурс аб чалавечым стане; аб ілюзіях, якімі апранаем агаленую рэальнасць і аб голай рэальнасці, ад якой сарамліва адварочваем вочы. У маім выпадку неабходнымі прадметамі заўсёды аказваліся кубак, нож і зубная шчотка. І не ведаю чаму, кнігі. Шмат з іх было ў маім жыцці. І мала іх са мною засталося.

Перасяленне выкрывае ілюзію. Нечакана выяўляем, што хатняя бібліятэка, якой мы так ганарыліся, складаецца з прачытаных і забытых кніг, з кніг недачытаных ці ніколі не чытаных, якія абяцалі мы сабе калісьці прачытаць, хоць ніколі не пераблылі з іх першай старонкі, якая найчасцей проста пустая. Я страсна купляў кнігі ці ў Польшчы, ці за мяжой, часта пазбаўляючы сябе іншых задавальненняў, а часам нават хлеба. Чаму я іх купляў — для ўласнай ганарыстасці, ці з-за павярхоўнай цікаўнасці, якія ніколі не ператварыліся ў запал да расследавання? Ці не лепш было б набыць добрае віно, запрасіць сяброў і атрымліваць асалоду ад моманту?

Перасяленне дае нам веданне пра сябе, толькі што і змарнуем яго навучальны вопыт жыцця. Мы замкнем яго ў нябыце, у рэшце рэшт зашнуруем няёмкім маўчаннем. Гэта будзе яшчэ адна скрынка (колькі ж гэтых скрынак!), якія валочым з сабою, мяняючы кватэры, дамы, гарады, краіны.

Я пераводзіўся з месца на месца шмат разоў. Часам з лепшага ў горшае, вядома, на мой погляд. Але былі і выпадкі адваротныя. Я адчуў перасяленне найбольш балюча ў той час, калі жыў у Нью-Йорку. Крызіс на рынку працы моцна крануў мае даходы. Я павінен быў замяніць вялікую кватэру ў прыморскім раёне Канарыса на скрынку памерамі 2,5 да 3 метры ў бруклінскім Маспеце. Палац на нары. Сёння я не бачу вялікай розніцы паміж імі. Можа быць, сцены клаўстрафобнага нумара ў Маспеце былі бліжэй да майго твару і сціснутай у кулак рукі, чым на Канарысе, але і там змясціў ў сабе ўсё, у што я аброс на працягу гадоў у Амерыцы. Большасць з гэтага — кнігі. Толькі што ў палацы ўсе яны былі па-за межамі майго ўспрымання, яны хаваліся ў шафах і скрынях, стаялі на паліцах; відавочна нябачныя. У бруклінскай дзіры, калі іх распакаваў са скрынак, не меў дзе ступіць. Таму я спакаваў іх назад у скрынкі — сёння я думаю, што для таго, каб успомніць, што я мог бы быць кімсьці іншым, чым ёсць і што я хтосьці іншы, кім хацеў быць... Або што я ёсць, а кім павінен быць — хто ведае?

На самой справе, нашай інтэлектуальнай бібліятэкай з'яўляецца ўсяго толькі некалькі кніг; сапраўды зачытаных кніг, памечаных алоўкам, з пазагінанымі ражкамі старонак. Вяртаемся да іх некалькі разоў, і на самой справе да некалькіх урыўкаў, якія груба падкрэслілі алоўкам і памецілі ўласным каментарыем. Нічога, што іх змесціва даўно страчана ў памяці кантэкстнага разумення, хаця пазначана намі клічнікамі або пытальнымі знакамі, з'яўляецца жывым выкліканнем інтэлектуальных сцежак, якімі накіроўваліся мы да самапазнання. Таму мы не вернемся да забытага чытання, нават не вяртаемся да тых падкрэсленых намі каментарыяў, але да нешматлікіх незразумелых клічнікаў і пытальнікаў. Што яны значылі, куды нас завялі? Не памятаем. А калі забыліся, ды куды дайшлі?

Перасяленне, якое разумеецца як стан пастаяннага перамянення ў цыкле псіхалагічных і інтэлектуальных зымяненняў, гэта правільная форма нашага існавання. Ці нам падабаецца гэта ці не, мы развіваемся. Мы пераязджаем. Гэты сказ можна разглядаць як аксіёму. Смерць аднаго нейрона ў нашым мозгу аказвае вялікі ўплыў на тое, як рэальнасць адлюстроўваецца ў свядомасці і наадварот. Дадатковы сінапс уфармаваны ў кары галаўнога мозгу дэканструуе папярэднюю карціну рэальнасці, часам рэзка. Так злачынцы становяцца святымі, святыя злачынцамі. На самой справе наша псіхіка рухаецца павозкай змен ад месца, дзе было наша Я, да месца, дзе нараджаецца наша новае Я. Тое ж самае Я, але ўжо іншае. Мабыць тое, што мы называем рэальнасцю, на самой справе гэта наша Я?

Наша жыццё поўнае нераспакаваных скрынак будзь фізічна, будзь метафарычна. Такім чынам, мы выказваем сваю гатоўнасць да наступнага перасялення. Скрыні, скрынкі, носьбіты ілюзіі...

**Міраслаў ГРЫКА**

# Стагоддзе
## Беларускай Народнай Рэспублікі

25 сакавіка 1918 года беларусы заявілі свету аб сваёй палітычнай суб'ектнасці, абвяшчаючы ў Мінску незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая падзея ўпісваецца ў гістарычны працэс народаў Цэнтральна-Усодняй Еўропы, паколькі падобныя памкненні выказвалі ў той час палякі, чэхі, эстонцы, фіны, літоўцы, латышы, славакі і ўкраінцы.

У Беластоку ўжо ў канцы дваццатых галоў мінулага стагоддзя беларусы 25 сакавіка ўрачыста святкавалі гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Трагічныя падзеі Другой сусветнай вайны і камуністычны лад у Польшчы і Савецкім Саюзе сцерлі, здавалася б, гістарычную памяць аб першай беларускай дзяржаўнасці новага часу. Аднак так не атрымалася. Памяць аб Беларускай Народнай Рэспубліцы яшчэ ва ўмовах канспірацыі, бо з паловы васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, пачала вяртаць беларуская моладзь, якая вучылася ў польскіх вышэйшых навучальных установах. А пасля дэмакратычных перамен 1989 года ў Польшчы гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі наша супольнасць адзначае ўжо легальна — і то не толькі на Беласточчыне.

Нашы продкі, беларусы Беласточчыны, актыўна прымалі ўдзел у падзеях, якія на пачатку 1918 года давялі да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі — нягледзячы на тое, што пераважная іх колькасць са жніўня 1915 года вымушана была бадзяцца па бязмежных прасторах Расійскай імперыі. Народны Сакратарыят Беларусі — першы ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі — узначаліў Язэп Варонка, ураджэнец Кузніцы-Беластоцкай. У Мінску захавалася пастанова Беларускага з'езда Бельскага павета, скліканага 20 снежня 1918 года ў мясцовасці Шчыты, аб падпарадкаванні ўладам Беларускай Народнай Рэспублікі.

Беларусы Беласточчыны ўступалі ў рады вайсковых фарміраванняў Беларускай Народнай Рэспублікі і нават стварылі самастойны беластоцкі батальён у арміі генерала Станіслава Булак-Балаховіча; удзельнічалі таксама ў Слуцкім збройным чыне 1920 года.

Сёння выказваем пашану ўсім тым, якія цягам мінулага стагоддзя дзейнічалі ў карысць Беларусі і беларусаў. Хай іх жыццё і ўчынкі натхняюць нас на тое, каб стрымаць вернасць беларускім ідэалам.

**Жыве Беларусь!**

Беласток, 25 сакавіка 2018 года

*Арганізацыйны камітэт па святкаванні 100-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі*

**Віктар Швед**

## Да Стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі

Цешуся з такіх умоў:
Толькі ў суме сем гадоў
Раздзяляе мяне з датай,
З Сакавіцкім Дваццаць Пятым.

Была абвешчана на славу
Суверэнная Дзяржава
Здзяйсненне мараў — БНР,
Сотня гадоў якой цяпер.

Хоць заснавальнікі — героі
Сваёй Айчыны дарагое
Не змаглі ўтрымаць даўжэй —
Мы не губляем іх ідэй.

Не забываем мы ніколі
Сакавіцкага Дня Волі,
Які нам будзе надалей
Надзеяй свабодных людзей!

**Беласток, 25 сакавіка 2018 года.**

# Жыву і пішу для людзей!

**Міра Лукша і Анна Камінская** — лаўрэаткі XXVII выпуску прэміі Прэзідэнта Беластока імя Веслава Казанэцкага. На ўзнагароду такога рангу і прэстыжнасці мы чакалі 62 гады, адкуль існуе «Ніва». Праўда, раней прэмію атрымалі нашы карэспандэнты і супрацоўнікі: Юры Плютовіч, Міхась Андрасюк і Уладзімір Паўлючук. Аднак іх прозвішчаў так цесна і відавочна не спалучалі з нашай газетай, а ў выпадку Паўлючука, шматгадовага журналіста «Нівы», такая інфармацыя замоўчвалася...





Важна, што Міра Лукша атрымала прэмію за беларуска-польскі том «Радаслоў». Як адзначыла старшыня капітула доктар Катажына Савіцка-Мяжынская, у ім назіраецца эвалюцыя творчасці паэтэсы. У Міры Лукшы шмат пройдзеных дарог. Дэбютавала 45 гадоў таму на старонках «Нівы». Польскамоўны чытач мог пазнаёміцца з яе «Free Вершамі тутэйшымі», выдадзенымі ў 2003 годзе. Іншы знакаміты польскамоўны том «Белы сток» быў намінаваны да ўзнагароды Казанэцкага ў 2012 годзе. Лепшыя вершы з названых зборнікаў увайшлі ў «Радаслоў» і дзякуючы гэтаму атрымалі беларускамоўнае гучанне. А ўсіх кніжак у лаўрэаткі 16, у тым ліку 12 на беларускай, як адзначыла Міра, матчынай мове.

Лаўрэаткі не хавалі ўзрушанасці і радасці, у іх прамовах гучала падзяка людзям і месцам, якія падарылі натхненне. І гучала слова «Белавежа» — раз як назва беларускага літаб'яднання, іншы раз як загаловак узнагароджанай кніжкі «Белавежа шэптам». Чаму такі загаловак?

— У маёй кніжцы людскія гісторыі, пра якія не гаворыцца адкрытым тэксам. Яны вядомыя ў сямейным кругу або цалкам замоўчаныя, — кажа Анна Камінская.

У пушчанскую Белавежу прывяла яе легенда Сімоны Косак, пра якую напісала біяграфію «Simona», намінаваную таксама да ўзнагароды Казанэцкага ў 2016 годзе.

— Няма такога месца на свеце як *Белавеж*, — не хавала захаплення Камінская, паслядоўна трымаючыся мясцовага назову слаўнай вёскі.

Большасць яе герояў — мясцовыя беларусы, свядомыя сваёй адметнасці і мовы, са сваім менталітэтам. Чытач разумее і даверае ім і нават эмацыйна звязваецца з іх гісторыямі і талентамі.

— Я закаханая ў Белавеж, — гаварыла рэпартажыстка. — І я шчаслівая, што мая любоў дацэнена. На Падляшшы ўвесь час адчувала я сімпатыю людзей. Я хацела б іх сёння прывітаць. Цешыць мяне, калі чую, што людзі чытаюць, пазычаюць адзін ад аднаго маю кніжку. Хачу сказаць, што мае зацікаўленні і пачуцці звязаныя з Падляшшам не абумоўлены толькі патрэбамі кніжкі. Гэтае святло я завезла з сабой і яно ўвесь час жыве ў маім доме.

Міра Лукша — ураджэнка пушчанскай вёсачкі Баравыя, атрымала шмат цёплых слоў і віншаванняў з боку сяброў і чытачоў. Дзяўчаты з Гарадка праспявалі ёй нават «Многая лета».

— Я вельмі цешуся з узнагароды Міры, — кажа Ірэна Матысюк, — і ганаруся сёння за нашу беларускую мову. Думаю, што гэта адкрые для нашых людзей вочы, яны зразумеюць, што магчымы поспех з беларускай мовай. І хачу яшчэ сказаць, што Міра поўнасцю заслугоўвае гэтага вылучэння і даўно ўжо павінна атрымаць узнагароду.

Узрушанасці і слоў прызнання не хаваў паэт Юры Плютовіч, чатырохкратны лаўрэат узнагароды Казанэцкага.

— Кніжка «Радаслоў» важная і дасканала аформлена. Я рады за Міру і беларускую мову. Узнагарода трапіла ў добрыя рукі.

Люба Харкевіч, настаўніца-пенсіянерка і лаўрэатка ніўскага «Дэбюту», па-мацярынску перажывала поспех Міры:



Міра Лукша і Юры Плютовіч

— Я шчаслівая, што Міра сёння расцвіла, так прыгожа выглядала і сказала кранальную прамову. Яе поспех перажываю як свой, бо гэты чалавек і паэт жыве і стараецца для людзей, для нашай беларускай мовы. Я сёння не засну ад эмоцый!

Міра Лукша сапраўды расцвіла на сцэне і захапіла сяброў і паклоннікаў свайго таленту. Адчувалася і дух герояў, якія пайшлі ўжо з жыцця, але засталіся на вечнасць у яе вершах. Іх прозвішчы прагучалі ў час прэзентацыі, якую падабрала акцёрка Катажына Сергей.

Сярод іх былі пачынальнікі і абаронцы роднага слова і эмоцый — Сакрат Яновіч, Юрка Геніюш, Міхась Шаховіч, Тамара Саланевіч, Ян Тарасевіч...

А ў час выступлення яна сказала такія словы:

Wierzę w słowo, które łączy, nie dzieli.
Wierzę w wiersz niezbędny jak haust powietrza.
Dziękuję moim siostrom amazonkom, które naszą niekompletność zamieniają w jeszcze większą, waleczną pełnię.
Dziękuję kolegom, autorom, poetom, którzy tworzą w innej materii lub tworzą po cichu.
Dziękuję tym, którzy pomagają mi oddychać i słyszą mnie, i idą do światła, i sami je rozsiewają na przekór mrokowi.
Dziękuję naszym babciom Wierom, Nadziejom, Lubom, Zofiom, które nauczyły nas pilnować domu i słowa, i sławy rodziny i gniazda.
Dziękuję naszemu gniazdu, Białemustokowi, z którego wylatujemy sami lub gnani falami świata, i do którego wracamy z wyraju.
Dziękuję wyrajowi, że dzięki niemu uświadamiamy, gdzie jest nasze miejsce.
Dziękuję miejscu i ludziom, dzięki którym wiem, kim jestem.
Jestem i piszę za nich i dla nich.
Dziękuję Bogu za języki, które wybrałam, i które wybrały mnie, abym w swoim byciu była zwielokrotniona i oddała z wzajemnością w dwójnasób.
Dziękuję.

Веру ў слова, якое злучае, а не падзяляе.
Веру ў верш неабходны, як глыток паветра.
Дзякую маім сёстрам-амазонкам, якія нашу вымушаную няпоўнасць замяняюць у яшчэ большую, баявітую паўнату.
Дзякую калегам, аўтарам, паэтам, якія ствараюць у іншай матэрыі або ствараюць у цішыні.
Дзякую тым, што дапамагаюць мне дыхаць і чуюць мяне, і ідуць да святла, і самі яны яго сейбіты, насуперак цемрыве.
Дзякую нашым бабулям Верам, Надзеям, Любам, Сафіям, якія навучылі нас пільнаваць дому і слова, і славы роду ды гнязда.
Дзякую нашаму гнязду, Беластоку, з якога вылятаем самі або гнаныя хвалямі свету, і да якога мы вяртаемся з выраю.
Дзякую выраю, што дзякуючы яму мы ведаем, дзе наша месца.
Дзякую месцу і людзям, дзякуючы якім ведаю, хто я.
Існую і пішу за іх і для іх.
Дзякую Богу за мовы, якія выбрала я і якія выбралі мяне, каб я была ў сваім быцці памножаная і аддала ўзаемна і двойчы.
Дзякую. **Міра Лукша**

Уручэнне прэміі адбылося 23 сакавіка ў беластоцкай кавярні «Фама». Арганізатары пашырылі формулу на ўзнагароду чытачоў, якую атрымала Леанарда Шубзда з Саколкі.

Той урачысты момант, калі сам прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі ўручаў прэмію і статуэткі, папярэдзіў канцэрт смычковага квартэту «Primavera»

Ад імя рэдакцыі «Нівы» сардэчна віншуем нашу Міру! Мы любім Твае вершы і ганарымся Табой! Дзякуем за цудоўны поспех, які таксама перажываем і лічым сваім. Многая-многая лета!

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# У белліцэях і белгімназіі адсвяткавалі сотую гадавіну БНР

У Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім і ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы 21 і 23 сакавіка асабліва ўрачыстымі былі святкаванні сотай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі. Многа бельскіх і гайнаўскіх белліцэістаў са сваімі дырэктарамі і настаўнікамі 25 сакавіка паехалі на аўтобусах у філармонію ў Беласток на цэнтральнае святкаванне гадавіны БНР.

У Бельскім белліцэі 21 сакавіка адчуваўся святочны настрой. Перад школай луналі бел-чырвона-белыя сцягі, якімі ўпрыгожана была таксама школа ўнутры. На школьных калідорах былі расклееныя заклікі да святкавання сотых угодкаў стварэння незалежнай беларускай дзяржавы і выявы беларускага герба «Пагоня». У калідорах і спартыўнай зале віселі таксама плакаты аб Беларусі і святочныя лозунгі. На другім паверсе белліцэя сабраліся ўсе вучні, настаўнікі і госці — старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа, віцэ-стараста Бельскага павета Пётр Божка, начальнік Аддзялення асветы Павятовага старасты ў Бельску-Падляшскім Анатоль Тымінскі, дырэктар бельскай «тройкі» Іаанна Каліноўская і былы дырэктар белліцэя Аляксей Карпюк.

Усе на зважай выслухалі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Усю сустрэчу ўмела вялі вучні трэціх класаў Аляксандра Лужэцкая і Адрыян Ігнацюк. Сабраных прывітаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

— Сто гадоў назад беларусы змагаліся, каб Беларусь была незалежнай і была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Дзень Волі ў нашай школе гэта вялікае традыцыйнае свята. Нацыянальнае свята важнае нашым вучням, настаўнікам і ўсім беларусам, калі мы паказваем прывязанасць да нашай гісторыі. Няхай славіцца Дзень Незалежнасці Беларусі, — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк.

— Мы, будучы маладымі, самі мусілі даведвацца аб нашым мінулым і самі адкрывалі нашу гісторыю, каб годна святкаваць Акт 25 Сакавіка. Усе мы павінны ганарыцца нашым мінулым, абараняць беларускую мову, думаць па-беларуску і быць разам, як разам былі сто гадоў назад беларусы, калі стваралі Беларускую Народную Рэспубліку. Зараз Дзень Незалежнасці, гэта дзень быцця разам усіх беларусаў свету, — сказаў старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа.

Вядучыя школьнае святкаванне падрабязна знаёмілі сабраных з падзеямі, якія адбываліся ў 1917 і 1918 гадах на беларускіх землях і давялі да абвяшчэння 25 сакавіка незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Распавядалі аб моманце абвяшчэння незалежнасці Беларусі і ўвядзенні беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай, прыняцці герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сцяга як нацыянальных сімвалаў незалежнай дзяржавы Беларусь. Зачытаныя інфармацыі папаўняліся кадрамі дакументальных фільмаў пра абвяшчэнне БНР. Мастацкую частку падрыхтавалі вучні другіх класаў, якія, між іншым, спявалі патрыятычныя песні, прыгадвалі жыхароў Беласточчыны, якія ангажаваліся ў беларускі нацыянальны рух, сярод якіх самы вядомы — Язэп Варонка, ураджэнец Кузніцы-Беластоцкай, першы прэм'ер-міністр БНР. Распавядалася таксама аб адраджэнні беларускасці ў пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя.













■ Святкаванні ў Бельскім белліцэі





■ Святкаванні ў Гайнаўскім белліцэі



Урачыстае святкаванне Дня Волі закончылася гімнам «Магутны Божа», да якога музыку на словы Наталлі Арсенневай «Малітва» склаў Мікола Равенскі. Займальна заспяваў яго беларускі калектыў белліцэя «Спадчына» пад кірункам Іаанны Хількевіч.

Пасля кароткага перапынку ў гімнастычнай зале Бельскага белліцэя адбыўся беларускі турнір, у час якога вучні першых класаў спаборнічалі, але перш за ўсё знаёміліся з беларускай культурай, мовай і мясцовымі традыцыямі.

— Супольная сустрэча ўсіх вучняў была вельмі ўрачыстай. Мы многаму навучыліся, пашырылі веды па гісторыі Беларусі, якая таксама з'яўляецца нашай гісторыяй. Святкаванне Дня Незалежнасці Беларусі павінна быць радасным, — гаварылі старэйшыя вучні.

— Самае важнае тут, каб была добрая гульня, а рыхтуючыся да турніру мы на-

працяг ☞ 10



Славамір КУЛІК
Гайнаўка




## Дзеткі вайны

Дзеткі вайны
Маюць асаблівыя ўсмешкі.
Іх душа вядзе барацьбу
З успамінамі.

Дзеткі канфлікту
Як цішыня па ўдары маланкі.
Уначы ўзрываюцца крыкам
І плачуць у падушку.

Дзеткі вайны
Без будучыні.
Іх мары расстраляны,
Жыццёвыя планы забіты.

У дзетак вайны
Пустэча ў вачах.
Яны не ўмеюць маліцца
За якую-небудзь надзею.

## Грабарка

Іду
Малюся
Нясу мой крыж
Пада мною зямля
Нада мною неба
За мною родны Грабавец
Перада мною Грабарка
Вакол паломнікі
Усё так проста
З Богам

## Курапаты

Тут цішыня.
Чаму дрэвы не крычаць
А буйна растуць?
Крыжы маўчаць.
Нямыя сведкі.
Зямля хавае сваю памяць.
Мы таксама павінны памятаць.
Людзі людзей забівалі.
За што?
Курапаты. Курапаты.
Мора слёз.
Адны стралялі, другія падалі.
Сталінскі прыказ.
Генацыду не адвернеш.
Тут патрэбна наша памяць,
Вечная малітва.

## Вартасці

У мяне адзін язык
А дзве мовы.
У мяне адно сэрца
А дзве айчыны.

У мяне дзве нагі
І дзве дарогі.
У мяне дзве рукі
І культуры дзве.

У мяне адзін Бог
А многа да яго дарог.
У мяне адно жыццё
А здаецца іх так многа.

## Людзі і дрэвы

Пабачце, які сімбіёз
Паміж бярозай і сасной.
У пагодны дзень яны дзеляцца
Сонечнымі прамянямі.
На ветры бяроза абдымае сасну
Як найлепшы каханак.
Сасна штурхае іголачкамі
Як клапатлівая жонка.
Растуць у лесе сярод тысяч
Бяроз, сосен, елак і асін.
А там у полі
Стаіць адзінокі дуб.
Людзі як дрэвы
І ў тлуме, і самотна.
Трэба быць магутным дубам,
Каб жыць у адзіноце.
Чалавека ногі завядуць
У тлум і ў самоту.
Дрэва можа толькі стаяць.

## Драўляныя хаты — яны з душой

У даволі вялікай вёсцы Міклашэва Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета пражывае 175 чалавек. Цераз яе пралягае павятовая асфальтавая дарога (паабапал яе стаіць даволі блізка адзін ад другога 25 дамоў (ёсць і па два дамы на адным панадворку), а 50 дамоў раскінуты на адасобленых участках — на г.зв. калёніях).

У Міклашэве пераважаюць драўляныя хаты. Тыя абжытыя ўсе прыгожыя, задбаныя. Драўляныя хаты — яны такія свойскія, як кажуць, найбольш прылюдныя, яны з душой. У іх яшчэ захоўваюць крэдэнсы, дзежкі, капанькі, бочкі, маслабойкі, калаўроткі, валкаўніцы, валкі і іншыя прадметы хатняга карыстання паўвекавой даўнасці. Зараз шматлікія драўляныя хаты аднаўленыя (перш-наперш ашаляваныя і памаляваныя на г.зв. цёплыя колеры — аранжавы, ярка-жоўты і ясна-карычневы) ды з ганачкамі. Калі прыгожыя дамы і платы каля іх, тады вёска і прыгожая, і ўсім падабаецца.

У Міклашэве кідаюцца ў вочы прыгожыя драўляныя хаты (яны пераважна з ганачкамі) цікавай арыгінальнай архітэктуры, між іншым, Андрэя Каліноўскага, Яна Дразда, Іаанны Мэрынг (яна займаецца агратурызмам), Сяргея Трусевіча, Тамары Анішчук ды сужонства архітэктараў па прозвішчы Касцюлэк з Варшавы. **(яц)**

# Тут традыцыя не згіне

23 сакавіка гэтага года ў самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета жыхары Старога Ляўкова, Новага Ляўкова, Сушчага Барка і Лешукоў упрыгожвалі кветкамі вярбовыя галінкі, малявалі яйкі ды спяклі „буславыя лапкі”.

Курыныя яйкі і выдзіманкі найперш малявалі ў розныя ўзоры растопленым воскам, а затым красілі як калісьці ў цыбульніку. Як шмат гадоў так і сёлета гэтаму вучыла ўсіх ахвотных Марыя Рэент.

„Буславыя лапкі” фарміравалі з дражджавога цеста і затым пяклі пад наглядам Лідзіі Харкевіч і Альжбеты Кунцэвіч. Дзеці з нецярпеннем чакалі таго моманту, калі яны спякуцца і іх дастануць з печы. Малых крыху салодзенькіх булачак хапіла для ўсіх. Елі іх са смакам ды папівалі кампотам.

Упрыгожаныя кветачкамі з featureзнакаляровай паперы і вузенькімі каляровымі стужкамі вербачкі жанчыны ўзялі дадому, каб у Вербніцу асвяціць іх у царкве. Як найлепш упрыгожваць г. зв. велікодныя пальмы вучылі, між іншым, Крыстына Паскробка і Галена Бартошук.

Традыцыйна ўжо мерапрыемства арганізавалі Таварыства „Ятрышнік” („Storczyk”) і святліца.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**










Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


## Танцавальны подых вясны!



**На** сотыя ўгодкі БНР у Беластоку выступіў **«Падляшскі вянок»**. Невыпадкова. На Свята Волі заўсёды запрашаюць найлепшых выканаўцаў. Той, хто раней бачыў выступленні беластоцкіх дзяцей, захапіўся і закахаўся ў іх ад першага погляду…

Незабыўныя, лёгкія і энергічныя выступленні пабачылі гледачы 17 сакавіка г.г. у Студэнцкім цэнтры культуры ў Беластоку. На сцэне выступілі два «Падляшскія вянкі» — старэйшыя і мадодшыя выканаўцы, а таксама гродзенская «Скарбонка». У паветры адчувалася напружанасць. Гэта перад прэм'ерай народнага беларускага танца «Лявоніха», якую нашы сябры выканалі з адчуваннем, грацыяй і жарам…

Гарадзенцы прывезлі з сабой подых вясны. У іх чароўных кампазіцыях гледачы, — а гэта былі бацькі і дзеці, — прыкмецілі танец птушак і дзіцячыя гульні. А калі на сцэну выйшла салістка Кіра Іванова і заспявала беларускія эстрадныя шэдэўры, публіка проста не верыла сваім вачам і вушам: такая маленькая дзяўчынка, а спявае як масцітая спявачка!

Выступленні «Падляшскага вянка» таксама былі папоўнены сольнымі выкананнямі: Юлі Баравік (яна вяла канцэрт), Марысі Пякарскай і Аляксандра Хаманюка. Дзеці прадставілі таксама танцавальную кампазіцыю на словы Петруся Броўкі «Пахне чабор». У ролю дэкламатара ўвайшоў Кандрат Косцін, а танчылі Кася Іванюк і Алесь Здрайкоўскі. Цудоўная сцэна!

Пра «Падляшскі вянок» можна сказаць, што гэта візітная картачка аб'яднання АБ-БА. На рахунку маладых фанатаў танца шмат выступленняў і ўзнагарод. Танцавальны ансамбль, які вядзе харэографка Аксана Прус, заваяваў ужо сэрцы многіх дзяцей і бацькоў. Пра гэта сведчыць яго небывалы рост. Узнікла ўжо другая, малодшая група «Падляшскага вянка», якая таксама выступала на студэнцкай сцэне. Тут трэба дадаць, што дзеці вывучаюць беларускія танцы разам з роднай мовай. Таму не дзіва, што з садка яны любяць культуру і мову сваіх продкаў.

**Зорка, фота: Ганны Кандрацюк**

*(частка 2)*

## Прыгоды Фернанды

З аднаго боку, гэты дар добры. З другога боку — дрэнны. Прыносіў нечаканыя прыгоды.

Позна, студзеньскім вечарам Фернанда вярталася з танцавальных заняткаў. Сыпаў густы снег. Ён заклейваў вочы, але адчыняў вушы. Чуваць было ўсе гукі ў наваколлі.

І тады дзяўчынка пачула плач дзіцяці. Хуценька прабегла дзве вуліцы, увесь час прыслухоўваючыся. Стоп! Апынулася перад чырвонай фортачкай. Удалечыні ўбачыла драўляную хату. Замкнула і адчыніла вочы.

Тады, праз сцены хаты ўгледзела невялічкі пакой. А ў ім, пасярэдзіне, стаяў стол. На падлозе плакала саламяная лялька.

Лялька ўзяла Фернанду за ручку і падвяла да сцяны, дзе не было ніякіх дзвярэй…

**Вучні V-VII класаў Пачатковай школы № 1 у Гайнаўцы**

Артур Вольскі

## Вялікдзень

Вялікдзень,
Вялікдзень —
Цудоўнейшы дзень!
Як сонейка ўзыйдзе,
Адступіцца цень.
Гэтым днём
Ісус Хрыстос
З мёртвых уваскрос.
Ён цяпер
Глядзіць на нас
З вышыні нябёс.

Хто ў нядолі,
Хто ў бядзе —
Ён да тых ідзе,
Бо шануе нас усіх
Як дзяцей Сваіх.

Ён прыйдзе
Ён прыйдзе,
Як чысты прамень.
А злодзей,
А злыдзень
Зашыецца ў цень!

Вялікдзень,
Вялікдзень —
Цудоўнейшы дзень!

## УВАГА КОНКУРС! № 13-18

Маленькі сам,
Нос доўгі, колкі,
Танчэй,
Вастрэй
Любой іголкі.
Пакуль ляцеў,
Усё крычаў,
А толькі сеў —
І замаўчаў.
Па ім рукою
стукнуў я,
Забіў!..
А кроў цячэ мая.
К….

(Ніл Гілевіч)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 8 красавіка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 9-2018: канькі. Узнагароды, наклейкі-эмацыконы, выйгралі Вікторыя Семянюк, Вікторыя Гаць з ПШ № 3 у Бельску, Оля Хіліманюк, Клаўдзія Нікančук з Нарвы, Віктар Лінк з ПШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

# Даведаліся пра новыя факты аб БНР







Вучні чацвёртага класа з бельскай «Тройкі»

Як прыгожа, без лішняга пафасу і нерваў ушанаваць Дзень 25 Сакавіка?

— Мы скарысталі з ведаў пра БНР, калі рыхтаваліся да прадметнага конкурсу, — кажа настаўніца Альжбета Рудкоўская з беластоцкай гімназіі № 7. — Апрача гэтага трэба было яшчэ нешта самастойна прачытаць, пашырыць крыніцы. Мы карысталіся цікавым сайтам **Будзьма беларусамі.**

Усё гэта для таго, каб прыняць удзел у адукацыйным апытанні пра БНР. Трэба было адказаць на 15 пытанняў. Самы найлепшы вынік атрымаўся ў **Наталлі Паўлоўскай** (у яе былі 3 памылкі). Апошнія адказалі правільна на 8-9 пытанняў. Дзякуючы гэтай акцыі, мы даведаліся пра такія факты, пра якія раней не дачыталі.

Такім цікавым і мудрым выклікам, беластоцкія гімназісты далучыліся да святкавання слаўнай гадавіны 100-годдзя БНР.

*(гак)*

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Мядзведзь і мурашка

Мядзведзь раскідваў лапай мурашнік, злізваў языком мурашак і праглынаў іх са смакам. І адна мурашка прыдумала спосаб, каб адпомсціць яму. Сходзіла яна да асы, камара, кляшча, чмяля і іншых насякомых ды папрасіла ў іх, сваіх сваякоў, дапамогі. Яны разумелі крыўду і страх мурашкі. Згаварыліся, што разам наляцяць на мядзведзя і стануць джаліць яго ў вочы і вушы. Як падумалі, так і зрабілі. Зухаваты мядзведзь спачатку цярпеў атаку насякомых, пасля аднак у яго разышліся нервы і ён ашалеў ад болю. Ён біўся галавой аб камень, набіў мызу, на якой з часам зрабіліся нарывы і завяліся ў іх чарвякі. Ад невыноснага болю мядзведзь раздзіраў лапай галаву і шкуру ды жудасна роў, ажно дрэвы дрыжалі...

З кожным днём справы ішлі ў дрэнны бок. Насякомыя пранікл і ў мядзведжы жывот і кусалі яму вантробы і сэрца. Мядзведзь не сцярпеў такога болю! Ён пагнаўся ў паток, з галавой апусціўся ў ваду і патануў.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Анця, Бельск-Падляшскі

## Анты-Венера

Ідзі! Ідзі далёка і не думай,
што я сумую.
Ідзі маніць людзей,
Якія цябе яшчэ шануюць.
Не думай, што сумую, ці тужу,
не сёння.
Сёння мне лепш,
калі цябе няма.
А калі месяц паявіцца на небе,
Я прыгадаю твае вялікія,
цёмныя вочы,
Пра якія забыць, на жаль,
не магу.

# Польска-беларуская крыжаванка № 13-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 9-18:**

Тата, акно, мост, змест, ля, столік, герц, гук, маг, праца. Ток, змена, месца, тост, стог, кот, лупа, лік, паляк, на.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Аляксандра Харытановіч, Дамініка Навіцкая, Марцін Панасюк, Каміля Бушко, Ганна Бурак** з бельскай «тройкі», **Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Аляксандра Бакун, Аляксандра Якімюк** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Клаўдзія Ніканчук, Оля Хіліманюк** з Нарвы. Віншуем!

Wierzba
Wąż
Przekaz
Budowa
Łyko
Kula
Jar
Zamiana
Bractwo
Piorun
Mur
Zewnątrz
Rowery
Wietrzyk
Sasanka
Pika
Klan
Nauka
Si
Sad
Ina
Anyż
Wio!
Si
Iwa
Znak
Bierz
Oda



Гімназісткі са школ Гайнаўкі і Беластока



Вучаніцы Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім

# Стварэнне БНР, творы Яновіча, Геніюш, Коласа і Крапівы тэмай конкурсу беларускай мовы

**Ужо другі год раённы і ваяводскі этапы прадметных конкурсаў па беларускай мове для вучняў падставовых школ і гімназій арганізуюцца ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Так было 15 сакавіка, калі да ваяводскіх адборачных спаборніцтваў Конкурсу беларускай мовы арганізаванага Куратарыяй асветы ў Беластоку для вучняў гімназій прыступілі 15 асоб. Працу камісіі ўзначальвала настаўніца беларускай мовы ў Бельскім белліцэі Яўгенія Таранта. Вучні пісалі на тэму стварэння ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі, пісалі працы і адказвалі на пытанні па творчасці Сакрата Яновіча, Ларысы Геніюш, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, перакладалі з польскай мовы на беларускую і выконвалі практыкаванні па граматыцы беларускай мовы.**

Вучням трэба было на працягу 90 хвілін справіцца з задачамі па беларускай літаратуры, гісторыі і практыкаваннямі па граматыцы. Каб стаць лаўрэатамі конкурсу па беларускай мове гімназістам трэба было набраць прынамсі 90% ад усіх магчымых да атрымання 80 балаў. Удзельнікі ваяводскіх адборачных спаборніцтваў, якія набралі менш чым 72 балы, сталі фіналістамі беларускага конкурсу. Лаўрэаты гімназічнага конкурсу па беларускай мове і па іншых прадметах паступаюць у выбраныя імі звышгімназічныя школы па-за конкурсам, а фіналісты падчас паступлення ў звышгімназічныя школы могуць атрымаць дадатковыя балы.

Калі вучні ў спартыўнай зале Бельскага белліцэя змагаліся з конкурснымі пытаннямі, настаўніцы, якія прывезлі вучняў на конкурс, размаўлялі ў рэлігійнай зале за кавай і гарбатай.

— У гімназіі пры Пачатковай школе № 4 у Гайнаўцы зараз толькі 11 вучняў ходзіць на заняткі па беларускай мове. Самая актыўная ў нас Эва Іванюк, якая штогод прымае ўдзел у конкурсе, дабіваецца поспехаў і сёлета таксама дайшла да ваяводскага этапу конкурсу. Мы з Эвай многа займаліся ў школе па пытаннях, прапанаваных для падрыхтоўкі да ўсіх этапаў конкурсу. Разглядалі мы творчасць Сакрата Яновіча і іншых беларускіх пісьменнікаў, шукалі галоўных ідэй твораў і рабілі пераказ да іх. Ставілі мы тэзіс да выбранага тэксту і стараліся абгрунтаваць яго. Аналізавалі мы гісторыю стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі і паўтаралі веды па мінулым рэгіёна. Стваралі слоўнічкі, вучыліся рабіць пераклады сказаў з польскай мовы на беларускую і займаліся граматыкай, — сказала Людміла Грыгарук, настаўніца беларускай мовы ў гімназіі пры ПШ № 4 у Гайнаўцы.

— Сёлета менш, чым у мінулых гадах, гімназістаў дайшло да ваяводскага этапу конкурсу. З нашай школы конкурсны тэст пішуць Караліна Палікатус і Іаанна Хомчук, якія ўжо ў мінулым паспяхова ўдзельнічалі ў конкурсах па беларускай мове. Каб дабіцца поспеху ў конкурсе, вучань павінен добра ведаць беларускую мову. Я таксама падрабязна аналізавала са сваімі вучнямі пытанні, якія знаходзяцца ў прапановах для падрыхтоўкі да сёлетняга конкурсу, — заявіла Іаланта Грыгарук, настаўніца беларускай мовы ў Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы.

— З нашай Гімназіі № 7 у Беластоку да ваяводскага этапу дайшлі 4 вучні. Калі закончаць пісаць, можна будзе спытаць у іх пра ўражанні, — сказала настаўніца, якая прывезла вучняў на конкурс.

Першай конкурсны тэст напісала Эва Іванюк з Гімназіі пры ПШ №4 у Гайнаўцы:

— Задачы па творах Сакрата Яновіча і Ларысы Геніюш не былі складанымі, але трэба было звяртаць увагу, каб правільна абгрунтаваць пастаўлены тэзіс, добра адказаць на пытанні і не зрабіць памылак. Дома я аналізавала таксама біяграфіі згаданых пісьменнікаў, але такой задачы не было падчас конкурсу. У сувязі з сотай гадавінай Беларускай Народнай Рэспублікі я, рыхтуючыся да конкурсу, аналізавала гэтае пытанне і такая задача трапілася ў конкурсным тэсце. Практыкаванні на тэму займеннікаў, лічэбнікаў, назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў не былі складанымі, але трэба было праверыць напісанае, каб пазбегнуць памылак. Нечаканасцю для мяне была задача, што тычылася фрагмента «Новай зямлі» Якуба Коласа, азагалоўленага «Каляды», бо ж гэты перыяд ужо мінуў і зараз набліжаемся да Вялікадня. Я люблю ўрокі беларускай мовы, люблю пісаць працы, выконваць практыкаванні па граматыцы і ад пятага класа пачатковай школы прымаю ўдзел у конкурсах беларускай мовы. Лічу сябе беларускай і займаюся ў тэатральнай групе, якая дзейнічае ў Гайнаўскім белмузеі. Ахвотна дэкламую і спяваю на беларускай мове, прымаю ўдзел у беларускіх культурных мерапрыемствах, — сказала Эва Іванюк, якая набрала 75 балаў (апярэдзілі яе толькі дзве ўдзельніцы конкурсу) і атрымала другое месца.

Першае раўнапраўнае месца занялі Аляксандра Пэткаў з Гімназіі № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім і Барбара Лук'янюк з Публічнай гімназіі № 7 у Беластоку, якія набралі па 76 балаў. Трэці вынік, 74 балы, набрала Анна Гадзінская з Гімназіі № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім.

Як другая і трэцяя справіліся з конкурсам па беларускай мове Іаанна Хомчук і Караліна Палікатус з Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, якія пазней даведаліся, што таксама сталі лаўрэаткамі конкурсу.

— Я пісала на падставе літаратурных твораў, зрабіла практыкаванні па граматыцы і думаю, што паспяхова справілася з тэстам. Я — беларуска, люблю вучыцца беларускай мове і таму была ахвота рыхтавацца да конкурсу, — сказала гайнаўская белгімназістка Іаанна Хомчук.

— Я ў першым класе гімназіі стала лаўрэаткай, а ў другім — фіналісткай конкурсу беларускай мовы. Цяпер у мяне было менш часу на падрыхтоўку да беларускага конкурсу, бо вучылася таксама да конкурсу па хіміі, дзе стала фіналісткай і да конкурсу французскай мовы, дзе чакаю яшчэ ваяводскіх адборачных спаборніцтваў. Мая мама родам з Беларусі, лічу сябе беларускай і хацела чарговы раз праўдзіць свае ўмеласці ў конкурсе па беларускай мове, — гаварыла белгімназістка Караліна Палікатус са Старога Беразова. — У сувязі з сотымі ўгодкамі абвяшчэння незалежнасці Беларусі нам трэба было працаваць па тэксце Галіны Тычкі «Шлях да нацыянальнай дзяржаўнасці», дзе галоўнай была падзея абвяшчэння БНР у 1918 годзе. Трэба было нам на падставе «Элегіі пакінутага гнязда» Сакрата Яновіча паставіць тэзіс да тэксту і абгрунтаваць яго. Трэба было таксама на падставе твора «Гасцінец» Сакрата Яновіча напісаць, як праходзіла жыццё чалавека. Мы ведаем твор Ларысы Геніюш «Маці мая», а ў тэсце трэба было зрабіць аналіз, маючы на ўвазе «я лірычнае». Задача, якая тычылася «Каляд» з «Новай зямлі» Якуба Коласа не была складанай, а з байкі Кандрата Крапівы «Ганарысты парсюк» трэба было растлумачыць фразеалагізмы. Быў яшчэ твор Ларысы Геніюш «За прасніцай» і на падставе яго мы шукалі назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы і займеннікі. Практыкаванні па граматыцы тычыліся яшчэ лічэбнікаў і прыставак. Пераклад сказаў на беларускую мову не быў складаны, але трэба было звяртаць увагу, каб не зрабіць памылак.

— У сувязі з «Элегіяй пакінутага гнязда» Сакрата Яновіча я паставіла тэзіс, што маладыя людзі выязджаюць у гарады, а вёска становіцца бязлюднай і адмірае ды старалася абгрунтаваць такі тэзіс, — гаварыла Эва Іванюк.

Вучаніцы Публічнай гімназіі № 7 у Беластоку Зося Конюх (стала лаўрэаткай), Анна Карнілюк і Вікторыя Пякарская (абедзве здабылі званне фіналістак) сказалі, што любяць вучыцца беларускай мове. Падчас конкурсу ў агульным лягчэй было ім аналізаваць творы беларускай літаратуры, але апасаюцца, што маглі зрабіць памылкі па граматыцы.

З Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім у ваяводскім этапе конкурсу прымала ўдзел 6 вучаніц, з ліку якіх 5 стала лаўрэаткамі, а адна — фіналісткай. Выкарысталі яны амаль 90 хвілін, адведзеных на конкурс, бо хацелі праверыць, ці не зрабілі памылак і добра справіліся з задачамі і конкурснымі практыкаваннямі.

— Рыхтуючыся да конкурсу па беларускай мове мы многа працавалі на ўроках беларускай мовы з нашай настаўніцай Валянцінай Бабулевіч у час пазаўрочных заняткаў і многа вучыліся дома. Адным з нас лягчэй справіцца з пытаннямі па літаратуры, а іншым лягчэй было выконваць практыкаванні па граматыцы. Аднак мы па чарзе апрацоўвалі ўсе прапановы для падрыхтоўкі да школьных, раённых і ваяводскіх адборачных спаборніцтваў, — сказалі бельскія белгімназісткі.

Лаўрэатка першага месца Аляксандра Пэткаў сказала, што любіць вучыцца беларускай мове, а ў конкурсах беларускай мовы пастаянна і паспяхова ўдзельнічае з пятага класа пачатковай школы. Юлія Скарбіловіч з бельскай «тройкі», якая так як і Эва Іванюк, займаецца ў тэатральнай групе Гайнаўскага белмузея, прыгадала, што тры разы выступала ў спектаклі «Айцец Канстанцін Байко», прысвечаным жыццю, службе і дзейнасці праваслаўнага святара і суствравальніка беларускага школьніцтва ў Бельску-Падляшскім.

Калі праходзіў конкурс, дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк разам з групай белліцэістаў прымаў удзел у сустрэчы з гімназістамі з мэтай заахвоціць іх вучыцца ў звышгімназічных школах Бельска-Падляшскага. Юля Скарбіловіч і большасць удзельнікаў конкурсу з бельскай «тройкі» заявілі, што збіраюцца паступаць якраз у Бельскі белліцэй.

З Непублічнай гімназіі імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку да ваяводскага этапу дайшла Вераніка Кардзюкевіч, якая дабівалася поспехаў у конкурсе па беларускай мове ўжо ў папярэдніх гадах і ў гэтым годзе стала лаўрэатам беларускага конкурсу. З Публічнай гімназіі ў Нараўцы званне лаўрэата здабыла Вікторыя Патонец.

— Вучні вельмі добра справіліся з конкурснымі працамі. Дванаццаць гімназістаў здабылі званне лаўрэата і толькі трох вучняў не набралі адпаведнай колькасці балаў і атрымаюць званне фіналіста. У некаторых выпадках горш атрымаўся пераклад сказаў з польскай мовы на беларускую і некаторыя вучні крыху горш справіліся з паасобнымі пытаннямі па граматыцы, — сказала старшыня конкурснай камісіі Яўгенія Таранта.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**27 лютага ў будынку Пошты польскай, што па вуліцы Варшаўскай 10 у Беластоку, адбылася прэзентацыя кнігі Мікалая Іванова „Забыты генацыд". Па сутнасці была гэта аднак не прэзентацыя кнігі, толькі прэзентацыя апісаных у ёй падзей, датычных трагічных лёсаў палякаў у сталінскі час. Падзей, якія доўгі час замоўчваліся, бо пярэчылі ідэалізаванай міфалогіі савецкай нацыянальнай палітыкі. Мерапрыемства ладзілася паштовай установай пры нагодзе адзначэння юбілею 460-годдзя Пошты польскай, заснаванай каралём Жыгімонтам Аўгустам у 1558 годзе.**



# Забыты **генацыд**

■ Магдалена Дзеніс-Тадорчук з беластоцкага аддзела ІНП і праф. Мікалай Іваноў

Што такое генацыд? — паставіў пытанне прафесар Іваноў. І адказаў: Гэта калі знішчаецца народ або грамадскую групу на аснове колеру скуры, нацыянальнай ці прафесіянальнай прыналежнасці, акрэсленую групу людзей. Ведаем пра генацыд на жыдах у час Другой сусветнай вайны, на армянах у час Першай сусветнай вайны. Украінцы гавораць пра Галадамор, той славуты голад у 1932-1933 гадах, што гэта быў генацыд украінскага народа. Палякі маюць усе падставы, каб заявіць Польскую ці Антыпольскую аперацыю 1937-1938 гадоў як генацыд; пакуль ставяцца першыя крокі ўсведамляючыя, што быў такі момант, калі мардавалі ўсіх палякаў на аснове нацыянальнай прыналежнасці, на аснове ключа крыві, калі так можна сказаць. Савецкі Саюз, асабліва сталінскі, быў гэтак званай вялікай турмой народаў; кожная нацыя была нейкім чынам пакарана.

Некаторыя гавораць, што камуністычная ўлада гэта ўлада жыдоўская; жыды адыгралі вельмі важную ролю ў станаўленні бальшавіцкай улады. У першым урадзе Леніна амаль усе былі жыды. Не ўсе помняць, што і ў адносінах да жыдоў Сталін у 1953 годзе рыхтаваў высяленне жыдоў ва „ўласную" рэспубліку, якая па сённяшні дзень існуе на тэрыторыі сучаснай Расіі пры кітайскай граніцы, у дзесяць разоў большая за сам Ізраіль; толькі жыдоў там няма. У 1953 годзе выдатныя прадстаўнікі яўрэйскай нацыі павінны былі напісаць Сталіну прашэнне, каб выселіць іх народ у тую рэспубліку. На якой аснове? А што недастаткова лаяльныя савецкай уладзе; такі быў план Берыі. Цяжка ў гэта паверыць.

Таксама падзеям сталінскага перыяду цяжка паверыць сучаснаму паляку. Калі я стаў займацца праблематыкай Польскай аперацыі, а гэта было яшчэ пры камуне, то выклікала гэта здзіўленне. Я ўжо тады ва ўніверсітэцкай публікацыі напісаў, што неяк загінула дзвесце тысяч палякаў; было каля мільёна, а раптам засталося за семсот тысяч. Патлумачыць гэта працэсам асіміляцыі немагчыма. У Савецкім Саюзе кожны народ быў пакараны. Чачэнцы цвердзяць, што амаль усіх іх выселілі, таксама крымскіх татар выселілі з Крыму ў Казахстан. Украінцы мелі галадамор. Аднак ніводзін народ не пацярпеў так, як палякі. У гады вялікага тэрору ва Усходняй Беларусі была вынішчана ўся беларуская інтэлігенцыя. Аднак гэта былі селектыўныя рэпрэсіі ў адносінах да невялікай групы. Калі ты беларус, то гэта не абазначала, што ідзеш у турму або стаеш пад сценку. Затое польская нацыянальнасць, запісаная ў пашпарце, была знакам для расстрэлу, для арышту — калі ты мужчынам у росквіце сіл. Бо кожны паляк лічыўся ворагам, шпіёнам, стваральнікам нейкай падпольнай арганізацыі.

Чаму Сталін так пакараў палякаў? Палякі пражывалі пры граніцы з былой Рэччу Паспалітай. Сталін рыхтаваўся да вайны з Другой Рэччу Паспалітай, бо меў глыбока ўкаранелую крыўду ад паражэння ў 1920 годзе пад Варшавай. І лічыў, што Польшча напэўна стане авангардам капіталістычнага свету і з Польшчай будзе вайна. Тады трэба ачысціць прыгранічную паласу, выселіць усіх палякаў. І першыя рэпрэсіі пачынаюцца ў 1935 годзе, калі палякаў сталі высяляць з польскіх нацыянальных раёнаў: з Мархлеўшчыны і Дзяржыншчыны. Але падобным чынам у 1937 годзе высялялі карэйцаў з прыгранічных раёнаў з Маньчжурыяй; Карэя ў той час была пад японскай акупацыяй. Але з карэйцаў амаль ніхто не згінуў. Калі высялялі фінаў з прыгранічных раёнаў, не было масавых расстрэлаў. Калі праводзілі нямецкую аперацыю, то іх страты былі дзесяцікратна меншыя. Немцаў таксама расстрэльвалі, спярша толькі нямецкіх грамадзян, якія працавалі на вялікіх савецкіх будовах. У адносінах да іншага савецкага народа не праводзілася так татальная чыстка як у адносінах да палякаў. Чаму? Чаму менавіта палякі? Можа ў Сталіна была нейкая антыпольская фобія? Ёсць такія нічым не абаснаваныя меркаванні, што Сталін быў сынам польскага генерала Пшэвальскага, да якога ён падобны. І мсціўся за тое, што генерал Пшэвальскі яго пакінуў. Гэта, аднак, няпраўда.




Сталін быў чалавекам вельмі канкрэтным і ведаў што робіць. Татальныя рэпрэсіі ў адносінах да палякаў былі яму патрэбныя, каб засеяць у савецкім грамадстве страх і пачаць тэрор. Палякаў Сталін свядома выбраў для запугвання для вялікага тэрору. Кожны паляк лічыўся шпіёнам, кожны паляк быў падазроны. Не было, аднак, указкі арыштоўваць усіх палякаў, але, напрыклад, мінскае НКВД атрымлівала загад арыштаваць дзесяць тысяч шпіёнаў. Адкуль жа столькі шпіёнаў узяць? Але трэба. Станіслаў Шушкевіч гаварыў, што яго бабуля была ксяндзом; і гэта праўда.

Татальныя рэпрэсіі ў адносінах да палякаў і каталікаў прывялі да таго, што ў Савецкім Саюзе ў 1939 годзе, дзе раней было каля паўтысячы касцёлаў, дзейнічалі толькі дзве каталіцкія капліцкі — у Маскве і Ленінградзе, для дыпламатаў. Не было такога ксяндза, якога б не арыштавалі. Ніводнае іншае веравызнанне не было падвергнута такой татальнай ліквідацыі. Вось у Катыні савецкія прапагандысты намагаліся пераканаць палякаў да савецкага строю, але не ўдалося іх перавыхаваць; не было ў энкавэдзістаў выхаду — прыйшлося іх расстраляць. Сталін прыйшоў да вываду, што польскасць не ідзе запар з камунізмам, што палякі непрыгодныя для саветызацыі. Таму адзінай кампартыяй, якая ў 1938 годзе была поўнасцю ліквідавана, была Камуністычная партыя Польшчы. Пасля Сталін шкадаваў гэтага, калі настаў час камунізавання Польшчы, бо ўсіх польскіх камуністаў расстраляў. Верагодна, што КПП была найбольш інфільтраванай кампартыяй; гэта заслуга польскай дэфензівы.

Калі засноўвалі Мархлеўшчыну і Дзяржыншчыну, то яны мелі стаць такімі камуністычнымі П'емонтамі, а пасля аказалася, што палякі для гэтага непрыгодныя: замест стаць сапраўднымі камуністамі, яны тайком хадзілі у касцёлы, не паддаюцца калектывізацыі. У БССР у міжваенны час польская мова была афіцыйнай моваю, у кожнай установе павінен быў быць адзін працаўнік, які добра валодаў польскай мовай.

Былі выпадкі скрывання польскасці, але калі ў ранейшых дакументах значылася польская нацыянальнасць, тады энкавэдзісты абвінавачвалі чалавека ў тым, што тую польскую нацыянальнасць скрывае. Што ж мелі рабіць тыя энкавэдзісты, калі ім загадвалі выкрыць дзесяць тысяч польскіх шпіёнаў, скажам, у Жытоміры, Бердычаве ці Вінніцы. Калі ён іх не знойдзе, тады ён ішоў пад сценку. Дарэчы, і так пасля шматлікія следчыя там апыналіся, такія былі сталінскія прынцыпы — спярша мардавалі „віноўных", а пасля тых, што „віноўных" мардавалі, каб скрыць тыя злачынствы — гэта прынцыпы таталітарнага строю. Разам ва ўсіх сталінскіх аперацыях загінула каля двухсот тысяч палякаў. Таксама сем'і расстраляных падвяргаліся пакаранням, жонкі ссылаліся на пяць-дзесяць гадоў, або і таксама падвяргаліся расстрэлам, дзяцей адпраўлялі ў сіроцкі, дзе ім мянялі тоеснасць і выхоўвалі на янычараў камуністычнага строю. Пасля Грамадзянскай вайны ў СССР было каля пяці мільёнаў сірот... Шматлікія людзі ў постсавецкай прасторы зараз, у сталым узросце, даведваюцца пра свае аўтэнтычныя карані. Ніводзін іншы народ не быў так пакараны сталінскай сістэмай, як палякі; кожны другі мужчына ў росквіце сіл быў расстраляны. Гэтага назваць інакш як генацыдам немагчыма. Было шмат такіх, якія ўцякалі з Польшчы ў Савецкі Саюз. Камуністычная прапаганда была вельмі паспяховай, абяцала беспрацоўным палякам працу ў Савецкім Саюзе; за гэтай прапагандай уцякло ў СССР каля ста тысяч палякаў, а пасля мала хто з іх застаўся ў жывых.

Вікіпедыя: „У другой палове 1920-х — першай палове 30-х кіраўніцтва Савецкага Саюза праводзіла палітыку каранізацыі, у ходзе якой у краіне быў утвораны шэраг аўтаномных абласцей і раёнаў, у тым ліку два польскія раёны: Дзяржыншчына ў складзе Беларускай ССР і Мархлеўшчына ў складзе Украінскай ССР. Мэтай існавання гэтых раёнаў была саветызацыя польскага насельніцтва. Польскі Аўтаномны Раён імя Дзяржынскага быў утвораны 15 сакавіка 1932 года ў складзе БССР, каля тагачаснай мяжы СССР з Польшчай. Аўтаномія мела блізу 1000 кв. км. плошчы і 44 тысячы насельніцтва. Цэнтрам раёна стаў горад Койданава, які ў сувязі са стварэннем аўтаноміі быў перайменаваны ў Дзяржынск. Назву Дзяржыншчына атрымала ў гонар Феліксa Дзяржынскага, стваральніка Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі (ВЧК). Аўтаномія палякаў, якія насялялі Дзяржыншчыну, не была фікцыяй. На тэрыторыі раёна дзейнічалі польскія школы і бібліятэкі, выдаваліся польскамоўныя кнігі, газеты і часопісы. Польская мова была адной з афіцыйных моў раёна. Яна ўжывалася ва ўсіх партыйных і дзяржаўных установах раёна, уключна з міліцыяй і судамі. У той жа час палякі і іншыя насельнікі Дзяржыншчыны падвяргаліся інтэнсіўнай камуністычнай прапагандзе, якая часта была для іх чужою, але была блізкаю палякам-камуністам, колькасць якіх у партыйным кіраўніцтве была занадта вялікая. Раён, як і ўвесь Савецкі Саюз, перажыў калектывізацыю і ганенні на рэлігію, якім насельніцтва аказала значны супраціў. Прычыны ліквідацыі польскіх аўтаномій не вельмі ясныя. Магчыма, гэта звязана з тым, што Сталін займеў іншыя планы адносна лёсу Польшчы і не жадаў мець у Савецкім Саюзе польскіх адміністрацыйных адзінак. Магчыма, палякі занадта цяжка паддаваліся саветызацыі. Так ці інакш, услед за Мархлеўшчынай (1935) у 1938 годзе была зліквідаваная і Дзяржыншчына. Школы, бібліятэкі, іншыя польскія культурныя асяродкі былі зачыненыя. Многія этнічныя палякі былі высланыя ў Казахстан і Сібір. Падрабязнасці існавання і ліквідацыі польскіх аўтаномій за савецкім часам замоўчваліся".

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

4 ☞ працяг

# Адсвяткавалі сотую гадавіну БНР

вучыліся многаму ў беларускай галіне, — сказалі вучні першых класаў, для якіх спаборніцтвы сарганізавалі вучні другіх класаў.

Турнір удала вялі другакласнікі Наталля Міранчук і Давід Шуй. Падчас спаборніцтваў вучні паасобных першых класаў удала заспявалі гімн школы «Люблю наш край, старонку гэту», адбылася прэзентацыя паасобных першых класаў. Вучні загадзя выканалі плакаты «Беларусь у маіх вачах» і растлумачылі іх змест. Першакласнікі цікава выступілі з інсцэніроўкамі беларускіх казак. Моладзь зацікавіла сабраных сваімі акцёрскімі ўмеласцямі і запрэзентавалася ў падрыхтаванай да выступлення вопратцы. Белліцэісты паспрабавалі развесяліць публіку, што ім часта ўдавалася. Вучні адказвалі таксама на загадкі. Над галовамі ўдзельнікаў турніру, які праходзіў на беларускай мове, луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Хаця выступы вучняў першых класаў ацэньвала адмысловая камісія, то самай важнай справай у турніры была добрая гульня.

* * *

У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы 23 сакавіка адчуваўся святочны настрой, а гэта па прычыне святкавання Дня Незалежнасці Беларусі. У школьнай актавай зале, упрыгожанай гербамі «Пагоня» і бел-чырвона-белымі сцягамі, сабраліся ўсе вучні і настаўнікі для ўшанавання сотых угодкаў стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Мерапрыемства пачалося з выслухання гімна БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Словы гімна былі бачны на экране і частка ўдзельнікаў урачыстасці спявала гімн уголас. Сабраных прывітаў вядучы мерапрыемства, настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі. Пра патрэбу супольнага школьнага святкавання Дня Незалежнасці сказаў дырэктар белліцэя і белгімназіі Ігар Лукашук, які звярнуў увагу на вялікае значэнне стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі для сучаснага маладога пакалення беларусаў, якое мае апірышча ў славутым мінулым стагадовай даўнасці.

— Урачыстыя і радасныя святкаванні Дня Незалежнасці выклікаюць моцныя перажыванні і эмоцыі. Не замесяцы яны ведаў аб падзеях 1918 года на беларускіх землях, якія вучні здабываюць падчас урокаў. Мне вельмі спадабаліся выступы вучняў ва ўзнёслым і патрыятычным духу. Важнай справай падчас урачыстасці была таксама мастацкая частка з сучаснай эстраднай музыкай, паколькі Дзень Волі з'яўляецца радасным днём, — скажа пасля заканчэння ўрачыстасці дырэктар Ігар Лукашук.

Слоўна-музычны мантаж падрыхтавалі вучні другіх класаў белліцэя з дапамогай настаўніка беларускай мовы Яна Карчэўскага. Пазнаёмілі яны сабраных з падзеямі 1917 і 1918 гадоў, якія спрычыніліся да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, а таксама распавялі пра першы ўрад БНР, арганізаванне беларускіх вайсковых частак і дзяржаўных структур на беларускіх землях. Рабілі гэта чытаючы інфармацыі і прэзентуючы на экране фрагменты гістарычнага фільма. Юлія Пракапюк сама развучыла і займальна праспявала твор «Пагоня». З патрыятычнымі творамі выступіў школьны беларускі калектыў «Знічка», які праспяваў песні «Сцяг» і «У гушчары». Спевакоў падрыхтавала мастацкі кіраўнік «Знічкі» Бажэна Вінцонак. Трыо «Знічкі», Дарыя Васілюк, Барташ Васілюк і Наталля Мусюк захапілі сабраных выкананнем гімна «Магутны Божа». Пасля афіцыйнай часткі ўрачыстасці выступілі выканаўцы эстрадных беларускіх твораў. Артур Маркоўскі праспяваў песню «Тры чарапахі» гурта «N.R.M.», Тамаш Дружба і Яцак Дружба зайгралі на акардэоне мелодыі вядомых беларускіх песень. Частка сабраных пачала спяваць, спачатку нясмела, а пасля штораз адважней. Вучні і настаўнікі разыходзіліся з актавай залы ва ўзнёслым настрої.

— Дзень Незалежнасці, гэта вельмі важнае свята для ўсіх беларусаў на свеце. Мы, беларусы ў Польшчы, годна адзначаем гэтае свята. Аб падзеях стагадовай даўнасці гаварылі мы на ўроках беларускай мовы. На ўрачыстасці можна адчуць святочную атмасферу і гэта вельмі важнае, — сказала белліцэістка Наталля Васько.

— Мне важна ведаць аб нашым мінулым. Стварэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі было вельмі важнай падзеяй у гісторыі Беларусі і нашага рэгіёна, — гаварыла Малгажата Галёнка.

— Мы сёння знаёміліся са сваёй гісторыяй і святкуем наша свята, — заявіў Марк Мароз.

Дваюрадныя браты Тамаш Дружба і Яцак Дружба сказалі, што дзеля адзначэння радаснага свята, якім з'яўляюцца сотыя ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларусі, патрэбныя не толькі патрыятычныя творы, але таксама народныя беларускія песні, якія ведаюць маладыя людзі і таму зайгралі вядомыя беларускія мелодыі. Настаўнік Ян Карчэўскі сказаў, што з Бажэнай Вінцонак вырашылі сумясціць патрыятычную і эстрадную праграму на беларускай мове, каб выступы былі не толькі ўзнёслымі і павучальнымі, але таксама выклікалі радасць у белліцэістаў.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**




# http://starki.by

У Беларусі, таксама як і ў Польшчы, зараз развіваецца агратурызм. Праўда, у беларускай краіне заўважным гэтае развіццё стала гадоў на дзесяць пазней за Польшчу. Таксама адметнасцю беларускага агратурызму з'яўляецца яе незаўсёды нацыянальная арыентаванасць. Нацыянальны каларыт не стаў паўсюдным у аграсядзібах — гаспадары не ў стане падтрымаць размову па-беларуску, не ведаюць цікавай гісторыі сваёй мясцовасці, атмасфера ў гэтых аграсядзібах ніякім чынам не дасць усвядоміць, што госць знаходзіцца ў беларускай краіне.

Але, як у кожнай справе, і ў агратурыстычным бізнесе ў Беларусі здараюцца выключэнні. Адно з іх — аграсядзіба „Старкі", што месціцца на ўсходзе Беларусі ў Бялыніцкім раёне Магілёўскай вобласці. Каб пазнаёміцца з аграсядзібай (напачатку — віртуальна), трэба зайсці на яе сайт у інтэрнэце, які знаходзіцца па адрасе **http://starki.by**.

Як толькі цікаўны карыстальнік адкрые дадзены сайт, то яго „сустрэне" фальклорная беларуская музыка, якую, каб прыглушыць, трэба клікнуць на выяву паўзы побач з напісанай вялікімі чырвонымі літарамі назвы сайта. Усё на сайце па-беларуску, хаця ёсць яшчэ англамоўная версія, але яна да канца не распрацаваная і мае толькі галоўную старонку.

Партал аграсядзібы „Старкі" змяшчае ўсяго чатыры рубрыкі. На галоўнай старонцы размешчаны фотаздымкі той мясцовасці і прапановы да патэнцыйных наведвальнікаў. Да таго, што прапануе аграсядзіба, мы вернемся ніжэй, бо найперш больш цікавай падаецца інфармацыя, якая змешчана ў рубрыцы „Пра нас". „Старкі — назва вёскі ў Круглянскім раёне, якая існавала з невядомых часоў. Як і шмат іншых беларускіх вёсак, Старкі былі пакінуты, апошні жыхар там пайшоў з жыцця ў 2012 годзе. Наша аграсядзіба называецца так у гонар беларускай вясковай культуры і гісторыі, якая паступова сціраецца з памяці людзей. Мы імкнемся захаваць нашу культуру, гісторыю і традыцыі для людзей, бо лічым гэта істотным для далейшага існавання незалежнай Беларусі. Незалежнасць пачынаецца з менталітэта, таму запрашаем вас пазнаць смак аўтэнтычнага беларускага вясковага жыцця, якое было рэчаіснасцю як мінімум два стагоддзі", — распавядаецца ў дадзенай рубрыцы. Расповед аздоблены фотаздымкамі вясковай хаты, дах якой, як сцвярджаюць уладальнікі аграсядзібы, зроблены з чароту — аднаго з самых старажытных, трывалых і экалагічных матэрыялаў у свеце.

Аграсядзіба прапануе тры варыянты адпачынку. Гэта — актыўны адпачынак: сплавы на каноэ і байдарках, летнікі, паходы па балотах і лясах беларускай зямлі ды іншае; тэматычны адпачынак: беларускія святы (Купалле, Каляды, Грамніцы, гуканне вясны ды іншыя). Да другога варыянту адпачынку прапануецца паспрабаваць адчуць сябе ў свеце паўночна-амерыканскіх індзейцаў.

Трэці варыянт — навучальны, у які ўваходзяць майстар-класы па хатняй гаспадарцы (традыцыйная беларуская кухня, загатоўка сена, прыгатаванне мукі і іншае).

Як адзначаецца на сайце беларускамоўнага бізнесу Svaje.by, на ўсе тэлефанаванні па пытаннях адпачынку ў аграсядзібе на крыштальна чыстай беларускай мовай адказвае гаспадар сядзібы спадар Алег. „Гасцямі займаецца ён сам, а калі не ён, дык там таксама беларускую разумеюць і па-беларуску гавораць", — сцвярджаюць „Свае".

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

## Падзеі і асобы БНР

# Падзеі пасля абвяшчэння Трэцяй Устаўной граматы

У гэтым выпуску пра тое, як развіваліся падзеі адразу пасля абвяшчэння Акту 25 сакавіка 2018 года, які абвясціў незалежнасць БНР.

Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі мела прамыя наступствы ў практычнай дзейнасці яе ўрадавых структур і мясцовых органаў.

Пасля выхаду са складу Рады БНР прыхільнікаў федэратыўнага саюза з Расіяй у выглядзе аўтаноміі (за гэта выступалі члены расійскіх і некаторых яўрэйскіх партый) у ёй практычна не засталося дзеячаў прарасійскай арыентацыі. Гэта спрашчала прыхільнікам незалежнасці праводзіць сваю мэтавую палітыку.

З іншага боку абвяшчэнне незалежнасці Беларусі замінала нямецкім уладам праводзіць сваю акупацыйную палітыку на захопленых у час вайны тэрыторыях. І хоць камандуючы Дзясятай нямецкай арміяй генерал ад інфантэрыі Эрых фон Фалькенгайн ужо праз два дні, 27 сакавіка, дазволіў Радзе БНР арганізаваць свой апарат на месцах, далей будаванне дзяржаўнасці ішло вельмі цяжка.

Урэшце з ваеннай просталінейнасцю нямецкія ўлады разагналі Раду БНР і ўрад — Народны Сакратарыят, але іх членаў не арыштавалі. Адмысловым камісарам па ваенных справах быў прызначаны Кастусь Езавітаў. Але гэта выклікала незадаволенасць нямецкіх улад, якія забаранілі дзейнасць Народнага Сакратарыята. Урэшце германскі канцлер Георг фон Гертлінг наўпрост заявіў, што Беларусь — гэта частка «Савецкай Расіі».

У апазіцыі да органаў БНР заставалася іншая групоўка нацыянальнага руху — Мінскае Беларускае прадстаўніцтва, створанае 25 лютага. Гэта было палітычнае аб'яднанне беларускіх партый і груп ліберальнай і правасацыялістычнай арыентацыі. У яго ўваходзілі прадстаўнікі Беларускай народнай партыі сацыялістаў, Партыі сацыялістаў-аўтанамістаў, Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, Беларускага праваслаўнага аб'яднання, Беларускага саюза зямельных уласнікаў і іншыя. Такім стракатым быў спектр арганізацый на гэтым флангу. Гэтыя сілы супрацьстаялі Беларускай сацыялістычнай грамадзе — асноўнай партыі ў Радзе БНР і яе ўрадзе.

У палітычным плане Мінскае Беларускае прадстаўніцтва выступала за стварэнне адзінага нацыянальнага цэнтра, за саюз з Нямеччынай і захаванне буйнага землеўладання як гарантыі забеспячэння насельніцтва сельскагаспадарчай прадукцыяй.

Ва ўмовах пераследу з боку нямецкай улады Рада і Народны Сакратарыят пайшлі на аб'яднанне з МБП. 12 красавіка ў склад Рады БНР былі кааптаваныя сябры Выканкама МБП, у тым ліку Павал Аляксюк, Раман Скірмунт і Аляксандр Уласаў. Менавіта гэтая групоўка ініцыявала ў Радзе БНР адпраўку тэлеграмы кайзеру Вільгельму II з падзякай і просьбай спрыяць умацаванню новастворанай беларускай дзяржавы. Прызнай Германія БНР юрыдычна — і наша гісторыя магла б пайсці зусім іншым шляхам. Аднак гісторыя не прымае ўмоўнага ладу.

У выніку Нямеччына так і не прызнала незалежнасць БНР. А нам застаецца прыгадаць тыя краіны, якія паспелі прызнаць нашу дзяржаву сто гадоў таму і ўсталяваць з ёй дыпламатычныя дачыненні: Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Чэхаславаччына, Арменія, Грузія, Украінская Народная Рэспубліка, крыху пазней — Аўстрыя. Консульскія прадстаўніцтвы БНР адчыніліся ў Германіі, Даніі, Турцыі і ў Маскве пры ўрадзе РСФСР. Консульствы БНР з'явіліся і ў асобных гарадах — Кіеве, Адэсе, Вільні, Стаўрапалі, Растове-на-Доне. Урад БНР працягваў дыпламатычную працу і далей, аднак развіццё дзяржавы было гвалтоўна прыпынена.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Спяшайма любіць людзей, так хутка адыходзяць



Гэтыя словы ксяндза Яна Твардоўскага прыводжу ў апошнія дні Вялікага посту як дэвіз яднання з Богам, аказання пакорлівасці і любові да навакольнага свету і людзей.

У панядзелак, 18 сакавіка пасля цяжкай хваробы на 77 годзе жыцця адышоў Янка Кубіцкі, пенсіянер-чыгуначнік, былы старшыня чаромхаўскай прафсаюзнай арганізацыі ў паравозным дэпо, інструктар машыністаў, гмінны радны, сардэчны сябра, добразычлівы і спагадлівы чалавек. З пакойным мы былі аднагодкамі. Сем гадоў вучыліся ў пачатковай школе, ды ў 1954 годзе разам яе завяршалі з тым толькі, што Янка вучыўся ў VII а класе, а я ў VII б. Быў ён выдатнікам па фізіцы. Любіў рабіць на ўроках эксперыменты, тлумачыў фізічны тэзіс па законе: рознаіменныя полюсы прыцягваюцца адзін да аднаго, аднаіменныя полюсы адштурхваюцца адзін ад аднаго. Будучы інструктарам у паравозным дэпо пакарыстаўся вопытам і ў зале навучання, пры выкарыстанні фотакамеры і тэлевізійнага манітора, арганізаваў сапраўдную кінастудыю. У час заняткаў удзельнікі спрэчак глядзелі вобраз у маніторы быццам у тэлевізары. Запаменаліся мне два здарэнні, якіх ніколі не забуду. Аднойчы, у перадвелікодную суботу рабілі мы з жонкай парадкі на панадворку. Неспадзявана дакранулася яна да пушчанай у ход дыскавай пілы і разрэзала далонь да паловы. Неабходна спатрэбілася завезці яе ў Гайнаўку ў шпіталь. Янка, як толькі даведаўся аб выпадку, зразу прыехаў на сваім „малюшку”, ды завёз у бальніцу. За паслугу не ўзяў ні залатоўкі. Так было і са мною ў 2000 годзе, калі я збіраўся паехаць у Бабroўку, каб узяць у старажылаў інтэрв'ю пра бежанства. «Ты што, ачумеў, каб на ровары ў Баброўку ехаць, — насцярожыўся сябра. — Пакінь ровар на панадворку, а я цябе на машыне завязу». І мы з Янкам зрабілі незвычайную экскурсію. У Зубачах мелі мы павярнуць у Баброўку, дык падаліся на Янцэвічы. «Дык мы не туды паехалі», — кажу прыяцелю. «Ведаю, — гаворыць з усмешкай сябра. — У Баброўку заедзем з другога боку. Пакажу табе на Пульве мяжу Чаромхаўскай і Нурэцкай гмін. Затым зведаем Клюкавічы, Такары і касцёл, у якім я шлюб браў». Так было. А як дамоў вярталіся, дык Янка загадаў праваслаўны могільнік у Чаромсе наведаць. «Пабачыш, Валодзя, — гаварыў Кубіцкі, — колькі нашых сяброў там спачывае». Такім быў мой прыяцель. А як радным з Фабрычнай быў, дык у сваёй кватэры кантору раднага арганізаваў ды наведвальнікаў прымаў. Заўвагі і прапановы на пісьме ў гміну падаваў і пісьмовага адказу патрабаваў. Ніводнай хібе не адпусціў. Як на пенсію адыходзіў, мне асабіста запрашэнне дахаты прывёз. «Дык пры чым жа тут я?» — гавару. — Сваіх калег па рабоце прасі». — «Ты, Валодзя, самы лепшы калега». Па фізіяноміі Кубіцкі напамінаў прэм'ер-міністра Хаўзнера. Заўжды вясёлы, з усмешкай, жартам весяліў кампанію. Засталіся па Ім памятныя здымкі з экскурсіі ў Казімеж-Дольны, Налэнчуў, Кентшын і Майданак.

Спачывай у пакоі, дарагі сябра! Няхай зямля Табе пухам будзе!

**Уладзімір СІДАРУК**

## На Вялікдзень

**Святочны Велікодны куточак Галіны Бірыцкай, жыхаркі вёскі Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета.**

Фота Янкі Целушэцкага



# Найгоршы кавалак

Зараз вельмі небяспечна ехаць ваяводскай дарогай № 687 на двухкіламетровым яе адрэзку ў Новым Ляўкове ад моста на рачулцы Баброўка да чыгуначнага пераезда ў вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Гэты кавалак дарогі ніяк не можа дачакацца салідняга рамонту маставой. Тут ухабіна за ўхабінай. Тут то ляскочуць рысоры легкавушак. А як тут ехаць на ровары, то забіцца можна. Былі на гэтым адрэзку шашы папераджальныя дарожныя знакі, але іх забралі перад восенню мінулага года.

На мае просьбы адрамантаваць дарогу Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку дае пісьмовыя, так мовіць, прыхільныя адказы, але вышэйзгаданай маставой не рамантуе. Абяцанкі-цацанкі... Апошняе пісьмо ППВД прыслаў мне ў пачатку сакавіка гэтага года. Зруху ніякага. Моў, мы ў Беластоку, ад вас, жыхароў Ляўкова і Плянты, далёка.

А рабочыя дарожнай службы самаходам ездзяць сюдою амаль штодзень. Яны, быццам, нічога не бачаць або прыкідваюцца, што не бачаць. Аднойчы ехаў я на ровары ў канцы восені мінулага года і бачыў, як яны рамантавалі маставую: бралі з пластмасавага мяшочка камякі г.зв. бітумічнай масы, кідалі іх у дарожныя выбоіны і ўбівалі-ўціскалі абцасамі гумовых ботаў. Мінулагодняя восень была дажджлівая і якраз у той дзень падаў дождж. Бітумічная смалістая маса доўга не паляжала на маставой. Была і знікла як камфора. Як кажуць, сабаку на буду такі рамонт. **(яц)**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. выдатны лётчык, туз = 4 _ 33 _;
2. паўночнаамерыканскі дзікі бык, як наш зубр = 9 _ 22 _ 21 _ 10 _ 1 _;
3. прастора для праезду паміж забудовамі з маставой і тратуарамі = 3 _ 15 _ 11 _ 27 _ 29 _ 2 _;
4. б'е, не заб'е тыдзень да Вялікадня = 18 _ 20 _ 16 _ 25 _ 26 _;
5. вадкасць, якая змяшчае выцяжку з раслІннага рэчыва = 6 _ 7 _ 14 _ 5 _ 17 _ 8 _;
6. цемра = 28 _ 12 _ 23 _ 24 _;
7. гумавы або металічны абруч на вобадзе кола = 13 _ 35 _ 34 _ 19 _;
8. не сон = 32 _ 31 _ 30 _.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 10 нумара**

Замова, каляя, містыка, юра, дзік, аловак, Каін, месяц, Бруней, хор, жывец, падцёк.

Рашэнне: **Мова людзей такая, якім было іх жыццё**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 01.04 — 07.04

**(22.03. — 20.04.)** Час на смелыя планы і новыя творчыя задумы. Твая парада і дапамога будуць мець цану. Твае ідэі — проста геніяльныя! Але 1-4.04. можаш апынуцца ў агні зацятай крытыкі. Някепскае здароўе і настрой. Усе красавіцкія дні будуць прыўкрашаны ноткай незвычайнасці. Старайся не выдаваць грошай (аж да 23.04.).

**(21.04. — 21.05.)** Важныя справы набяруць тэмпу, але з новымі планамі пакуль стрымайся. Вакол цябе прыязныя людзі. Займайся сабой і сваімі справамі. Новыя кантакты. У пары, нават калі было не вельмі добра, усвядоміце тое, чаго вам трэба. Варта змяніць хатні графік. На працы адрабляй «хвасты», канчай старыя праекты. Венера адыме табе гады, маршчыны і кілаграмы!

**(22.05. — 22.06.)** Рабі важнае. Лепшыя дні ўжо неўзабаве. Будзь асцярожны ў пачуццях і фінансах. 3-5.04. цані сваіх праціўнікаў, каб не ўвайсці ў канфлікт з мацнейшымі. 4-6.04. твае аргументы могуць не трапіць да адрасатаў. 4-6.04. можаш парваць цяжкія для цябе адносіны. 3-5.04. не парань кагосьці непрадуманым словам. Схадзі да лекара; 4-6.04. штосьці можа цябе турбаваць у здароўі.

**(23.06. — 23.07.)** Марс дадасць табе адвагі і гарантаваць будзе ўдачы ў іншага полу. Хутчэй заб'ецца тваё сэрца. У інтарэсах без цяжкасцей даб'ешся ўдач. Рух у інтарэсах і большыя грошы. Крыху нервовы час на працы, на спіне подых канкурэнцыі. Адчуеш сябе маладзейшым, танчэйшым, больш спраўным; дбай аб форму. Раку з апошніх дзён знаку пагражае кантузія ці пералом, нават дома.

**(24.07. — 23.08.)** На працы ўсё аформіш, але негацыяцыі з блізкімі могуць цябе перарасці. Інвестуй у сябе. 1-3.04. апануеш новыя веды, новую ўмеласць. 1-4.04. здабудзеш сімпатыю многіх людзей, іх удзячнасць і падтрымку. Самаўпэўненасць, вера ў свае сілы. Аператыўнасць і рэфлекс. Не бойся размоў аб працы і за працу. Трапіш да кожнага і пераканаеш усіх. Але не вырывайся зарана да нічога 4-6.04. 1-4.04. будзеш крыху лянівы і неахвотны пры дыеце ці практыкаваннях; не кідай іх — неўзабаве пахвалішся суперфігурай!

**(24.08. — 23.09.)** Не паддавайся! Ёсць рэчы, за якія варта пазмагацца! Разумныя рашэнні прынясуць поспех. Пераскочыш кожную перашкоду, заашчадзіш час і грошы. Трэба будзе зрэвідаваць планы і ўвесці папраўкі, кончыць пачатае. З 5.04. (да 9.04.) — ідэальны час на заручыны і шлюбы. Здароўе не павінна падвесці, але дбай аб горла, гланды і вушы. 4-6.04 могуць вылезці некаторыя недахопы і занядбанні.

**(24.09. — 23.10.)** Адкрыешся на новыя ўражанні. Схочаш падарожнічаць, знаёміцца з людзьмі і месцамі. 1-3.04. карысныя знаёмствы. Мацней у пачуццях. Але не будзь лёгкадумным. Будзеш прагны, бескампрамісны. Пакуль не купляй аўтамашыны (аж да 15.04.). Занядбаў важную справу? Шэф будзе часцей глядзець табе на рукі. З 5.04 (да 9.04.) паявіцца нагода для карыснай інвестыцыі. Добры момант пачаць старацца пахудзець і канкрэтна ўзяцца за справу.

**(24.10. — 22.11.)** Добра будзеш адчуваць сябе з людзьмі, і ўзаемна. Не выдавай заробку ў шынках! Неба дае табе поўнае поле, каб паказацца. Кемлівасць, засяроджанасць, самаўпэўненасць. Зоркі падтрымліваюць твае мерапрыемствы. Зялёнае святло для шукаючых кахання. Але 3-5.04. не ляпні лішняга. Твая дапамога іншым будзе неацэнная. Не рабі большых пакупак (асабліва ровара, аўто, электронікі) аж да 15.04.

**(23.11. — 22.12.)** Будуць нагоды для збірання новага досведу. Асцярожнасць дасць абмінуць табе пасткі. 1-4.04. будзеш крыху скнарай і ныцікам. Пачуццё стабілізацыі і бяспекі ў сферы фінансаў; забяспечышся на выпадак рызыкі. Раманы не маюць будучыні (аж да 23.04.). Лянотна, але старайся выканаць свае абавязкі. Фінансава спакойна. Варушышся на паветры.

**(23.12. — 20.01.)** Прыліў новых сіл, радасць і воля дзеяння. Будзеш як магніт для іншага полу. Поспехі ў кампаніі, удачы ў любові, зычлівасць калег. Хаця магчымыя канфлікты ў пары. На працы што пасееш, неўзабаве прынясе завідны плён. Лепш заробіш, а выдасі менш. Але 1-5.04. не будзь лішне крытычным.

**(21.01. — 19.02.)** Возьмеш на сябе заданні, патрабуючыя самастойнасці і хуткіх рашэнняў. Не ўспрымай лёгка асцярог і небяспек, бо сіла ў цябе цяпер меншая. Магчымыя спрэчкі, асабліва 4-6.04. 1-5.04. усюды будзеш бачыць ворагаў. Але 1-3.04. можаш заснаваць сваю фірму, запісацца на курсы. Вадалей з апошніх дзён знаку можа зарабіць на чымсьці нетыповым. 3-5.04. пільнуйся, каб не паламацца і не трапіць у аварыю.

**(20.02. — 21.03.)** Скончацца праблемы, а людзі, якія абмяжоўвалі тваю свабоду, дадуць табе свабодную руку. Разлічвай на шчаслівыя выпадкі, падтрымку наваколля. Разгарнеш крылы! Новыя знаёмствы і раманы. Але 1-5.04. могуць вярнуцца старыя кантузіі ці праблемы са здароўем, а 4-6.04. трэба будзе заняцца справамі, да якіх ты не хацеў бы вяртацца.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

